**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 33 (854) 18 жніўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Фота Уладзіміра Скрабатуна.

**У мінулую нядзелю ў Глыбокім адбылося яшчэ адно масавае мерапрыемства лета – Мядовы спас. На здымку: вясёлыя "пчолкі" – з Канстанцінава Двара.**



## Шукаюцца сведкі крадзяжу ровара "KELTT"

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 01.08.2016 па ч.1 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу ровара "KELTT".**

На падставе выкладзенага, прашу Вас аказаць дапамогу ва ўсталяванні навочных сведкаў дадзенага злачынства.

**Інфармацыя пра злачынства:**

Перыяд часу, у які здзейснена - З 22.00 гадзін 01.07.2016 года да 09:30 гадзін 02.07.2016 года.

**Месца здзяйснення злачынства:**

г. Глыбокае, вул. Паўночная, в. 7, пад'езд №2.

**Акалічнасці злачынства:**

Неўсталяваная асоба ў перыяд часу з 20.00 гадзін 01.07.2016 да 9.30 гадзін 02.07.2016, шляхам вольнага доступу, таемна выкрала з пад'езда № 2 дома №7 па вул. Паўночнай г.Глыбокае ровар "KELTT", з выкрадзеным схавалася і распарадзілася ім па сваім меркаванні.

Навочных сведкаў і асобаў, якім вядомыя якія-небудзь акалічнасці здзейсненага злачынства, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул. Леніна, в.95, каб.№9, ці патэлефанаваць на нумар: 5-04-12.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай,
**А.Д.Касцючэнка,** следчы СА Глыбоцкага РАСК, лейтэнант юстыцыі.



ISSN 2077-8023



## Полацкі раён

# Знайсці працу праблема

■ Чэслаў Якубовіч.

**Сітуацыя на многіх айчынных прадпрыемствах і ў арганізацыях зараз няпростая, што адчулі па сабе многія суайчыннікі.**

Толькі ў адной Віцебскай вобласці ў першым паўгоддзі звольнілі з працы 40 тысяч рабочых і служачых, і кожны чацвёрты з іх пакуль так і не здолеў адшукаць новае месца працаўладкавання. Падобных праблем не пазбег і буйны Полацкі раён, дзе каторы ўжо месяц звыш дзясятка суб'ектаў гаспадарання, пераважна сельгаспрадпрыемствы, маюць пратэрмінаваную запазычанасць па зарплаце. У параўнанні з суседнім Наваполацкам упалі ў пачатку года заробкі ў суседнім Полацку, дзе ў найбольш складаным становішчы апынулася будаўнічая галіна. Працяглы час не мелі працы работнікі будаўніча-мантажнага трэста № 22, якому ўвогуле пагражае ліквідацыя. Не ад добрага жыцця на мясцовым малочным камбінаце частку грошай яго работнікам сталі выплочваць, як на вёсцы, натуральнымі прадуктамі. У рэгіёне самае высокае ў Беларусі напружанне на рынку працы, бо на адну свабодную вакансію прэтэндуе ўжо 3,1 беспрацоўных. Палачане бачаць у горадзе шэраг закансерваваных будаўнічых аб'ектаў. На фоне сур'ёзных праблем у мясцовага завода "Тэхналіт" пайшлі значна лепей справы ў ААТ "Полацк-Шкловалакно" і там выраслі заробкі на 17 % пасля адмены заходніх санкцый. А вось у суседнім Наваполацку з-за падзення сусветных цэн на нафту рэальныя заробкі зменшыліся за год амаль на 15 %. У нафтагрwelдзе таксама ёсць праблемы з працай і там сталіпрапаноўвацьжадаючым павучыцца на спецыяльных курсах на прадаўцоў, слесараў па рамонце аўтамабіляў, качагараў, цесляроў і нават на індывідуальных прадпрымальнікаў пасля паўмесячных курсаў у Полацкім дзяржуніверсітэце.

## Пастаўскі раён

# Хто не працуе, не выжыве

■ Станіслаў Раманчук.

**Практычная кожная трэцяя гаспадарка краіны стала неплацежаздольнай, а найбольш калгасаў чакае санацыя з банкрутцтвам менавіта на Віцебшчыне.**

Падчас нядаўняй рабочай паездкі яшчэ раз пераканаўся ў гэтым і А. Лукашэнка. Ён з верталёта агледзеў ход уборачнай кампаніі і ў Пастаўскім раёне, які, дарэчы, адзіны ў Прыдзвінні не меў у пачатку жніўня запазычанасцей перад вяскоўцамі па аплаце працы ў чэрвені, калі ішла нарыхтоўка кармоў. У цэлым жа па вобласці з людзьмі не разлічыліся за гэты месяц на астранамічную суму 60 млрд. старых рублёў. Горш таго, яшчэ 5 раёнаў вобласці не выплацілі заробкі сялянам за май і такія хранічныя даўгі сталі горкай паўсядзённасцю. Аднак і на самой Пастаўшчыне толькі 4-5 мясцовых гаспадарак з 15 з'яўляюцца плацежаздольнымі, могуць неяк развівацца. Астатнія ж сельгаспрадпрыемствы краю разам маюць 811 млрд. розных даўгоў, у тым ліку яны завінаваціліся перад мясамалочнымі прадпрыемствамі 106 млрд.. Даўгі непагашаныя за банкаўскія крэдыты мясцовых гаспадарак дасягнулі 196 млрд. рублёў у старым вымярэнні, энергетыкам яны запазычалі ўжо 40 мільярдаў. У бюджэт ад такіх гора-гаспадрак не паступіў яшчэ 51 млрд., а страты ад бягучай дзейнасці вырaслі амаль да 12 млрд. рублёў. На вёсцы не ведаюць, якім чынам папаўняць свае абаротныя сродкі, пералічваць сродкі ў Пенсійны фонд. Падчас жніва праблемныя гаспадаркі распрацоўвалі да 1 верасня бізнес-планы, каб іх узгадніць і не патрапіць у катэгорыю тых, каго чакае непазбежная працэдура банкрутцтва і ліквідацыі.

## Верхнядзвінскі раён

# Занадта агрэсіўны злодзей

■ Кастусь Александровіч

**Празмерная цягамногіх грамадзян да чаркі штурхае часта іх на неабдуманыя ўчынкі, прыводзіць да панажоўшчыны і да сур'ёзных злачынстваў.**

Падобны выпадак быў днямі зафіксаваны раніцай у адным з магазінаў, размешчаным у цэнтры Верхнядзвінска. Сюды прыехаў па сваіх справах 55-гадовы жыхар раёна з багатым крымінальным мінулым і шэрагам судзімасцей за крадзяжы і хуліганства. Пастаяннай працы гэты мужчына не меў, аднак хацеў жыць весела. Таму ён без ваганняў узяў з паліцы бутэльку гарэлкі коштам 83 тысяч недэмінаваных рублёў і паспрабаваў непрыкметна яе ўкрасці. Аднак пільная прадавец заўважыла гэта і паспрабавала злодзея затрымаць. Мярзотнік доўга не думаў, ударыў жанчыне па-баксёрску ў вісок кускам тратуарнай пліткі, якую загарнуў у поліэтыленавы пакет. Для ўстрашэння астатніх работнікаў крамы няпрошаны госць выцягнуў яшчэ і нож і стаў пагражаць кожнаму, хто да яго наблізіцца. Рабаўнік кінуўся наўцёкі, але міліцыя пасля званка загадчыцы магазіна ўжо ведала аб гэтым здарэнні. За некалькі мінут сюды пад'ехалі супрацоўнікі райаддзела і нарад мясцовага аддзялення "Аховы" МУС Беларусі са сваёй аўчаркай. Службовая сабака і дапамагла неўзабаве затрымаць злачынцу. У райбальніцы аказалі пацярпелай неабходную дапамогу, і ў той дзень ёй прыйшлося адпачыць дома і супакоіцца пасля перажытага стрэсу. У адносінах нахабнага злодзея ўзбуджана крымінальная справа за разбой. За падобныя дзеянні суд можа адправіць рэцыдывіста за краты зноў на працяглы тэрмін зняволення. Такія спробы ўкрасці з прылаўку бутэльку-другую спіртных напояў перыядычна ўзнікаюць у вобласці, але да падобнай агрэсіі даходзіла рэдка.

## Аб самым надзённым

# ІНЦЫДЭНТ З ПАДЗЕННЕМ КОРПУСА РЭАКТАРА ЎЗВОДЗІМАЙ АЭС ЛЯ АСТРАЎЦА МОЖА ЗАЦЯГНУЦЬ ТЭРМІНЫ ЯЕ БУДАЎНІЦТВА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Беларускую АЭС яшчэ не пабудавалі, а столькі вакол яе ўжо праблем. Нават калі ўсё будзе добра са станцыяй, то беларусам не патрэбна будзе столькі выпрацаванай электраэнергіі, паўстае пытанне, куды перанакіраваць лішкі энергіі.**

У паўсядзённым жыцці бываюць такія выпадкі, якія карэнным чынам змяняюць звыклы ход будняў і лёсы многіх людзей. Не паспеў беларускі лідар падчас рабочай паездкі па Магілёўскай вобласці заявіць, што ён і іншыя людзі ў пагонах, як бы не было складана, але зробяць усё для забеспячэння бяспекі ў краіне, як, магчыма, здарыўся сур'ёзны інцыдэнт на ўзводзімай Беларускай АЭС у 18 км ад Астраўца. У аднайменным раёне дагэтуль на працягу паўмесяца хадзілі чуткі, што на станцыі нешта сур'ёзнае здарылася з яе рэактарам (вырабілі ў Валгадонску пасля 20 гадоў прастою завода) расійскай вытворчасці.

Адкрыта работнікі АЭС пра выпадак у нядзелю 10 ліпеня на будпляцоўцы падчас пробнай трэніроўкі нічога не маглі расказаць, бо яны падпісваюць пры прыёме на работу дакументы аб неразгалошванні дзяржтаямніц. Аднак мясцовы кандыдат у дэпутаты парламента, актывіст АГП М. Уласевіч напісаў 25 ліпеня пра здарэнне на сваёй старонцы ў Інтэрнэце, апытаўшы розныя дасведчаныя крыніцы. Сталі гаварыць пра гэта незалежныя СМІ, трывогу ўзняла і літоўскі прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ. І толькі тады адрэагаваў і супакоіў усіх генеральны падрадчык, расійская кампанія "Атамбудэкспарт", што маўляў там нічога сур'ёзнага не адбылося.

Аднак вечарам таго ж дня расіян крыху папраўіла Міністэрства энергетыкі Беларусі і прызнала, што інцыдэнт меў месца. Праўда, на гэта спатрэбілася нашым чыноўнікам паўмесяца, нават пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС расказалі па савецкім тэлебачанні ўжо на другія суткі пасля той катастрофы. Беларускія энергетыкі паведамілі праўду, што адбылася нештатная сітуацыя на пляцоўцы захоўвання корпуса рэактара (вагу ён мае немаленькую - 330 тон) пры "правядзенні такелажных работ па яго перамяшчэнні ў гарызантальнай плоскасці". Спецыялісты Мінэнерга Беларусі таксама запатрабавалі ад сваіх расійскіх партнёраў па будоўлі АЭС усе неабходныя дакументы і звесткі, паабяцалі правесці дэталёвы аналіз узнікшай сітуацыі.

На самой справе, магчыма, мела месца падзенне шматтоннай канструкцыі з пэўнай вышыні ад 2-х і нават да 10-ці метраў, бо памыліся з разлікамі аб трываласці строп пры рабоце з вялікагрузным рэактарам першага энергаблока. Напэўна, будзе створана адмысловая камісія з дасведчаных інжынераў, якія высвятляць, ці атрымаў корпус рэактара нейкія пашкоджанні. Пікатнасць сітуацыі ў тым, што па гэтай праблеме рашаючае заключэнне будуць рабіць не беларусы, а … генпадрадчыкі расіяне. Пакуль жа месца здарэння было ачэплена і знаходзілася пад пастаяннай пільнай аховай.

Між тым незалежныя эксперты фізікі-ядзершчыкі раяць замяніць корпус хоць і нязначна пашкоджанага рэактара на новы. Прафесар-атамшчык Р. Лепін заявіў, што падчас далейшай эксплуатацыі рэактара на яго стануць уздзейнічаць інтэнсіўна патокі нейтронаў. Нават мізерная мікратрэшчына альбо дэфармацыя яго корпуса ў такой сітуацыі робяць эксплуатацыю АЭС рызыкоўнай і небяспечнай. Тут ужо недалёка да новага выбуху, параўнальнага з тым, што адбылося ў Чарнобылі. Беларускую АЭС яшчэ не пабудавалі, а столькі вакол яе ўжо праблем. Нават калі ўсё будзе добра са станцыяй, то беларусам не патрэбна будзе столькі выпрацаванай электраэнергіі, паўстае пытанне, куды перанакіраваць лішкі энергіі.

Нашы суседзі літоўцы таксама патрабуюць прыпыніць будаўніцтва АЭС да правядзення стрэс-тэстаў, прапануюць увесці незалежны міжнародны кантроль за ходам узвядзення БелАЭС, бо ў паўсотні км ад станцыі размяшчаецца іх сталіца Вільнюс. Як бы ні разгортваліся далейшыя падзеі, адно можна спрагназаваць дакладна: будаўніцтва атамнай станцыі ля Астраўца з-за гэтага інцыдэнту, трэцяга па ліку апошнім часам, яшчэ болей можа зацягнуцца і кошт узвядзення можа таксама павысіцца, калі тэрміны здачы АЭС у эксплуатацыю яшчэ адкладуць. Што там рэальна здарылася, пакуль незразумела, але гэты інцыдэнт непрыемны тым, што ад беларусаў не залежыць прыняцце канчатковага рашэння.

Праўда, крыху супакойвае, што ў Астраўцы пасля гэтага здарэння стала працаваць камісія такой аўтарытэтнай арганізацыі ў гэтай сферы, як МАГАТЭ. Сама ж узводзімая двублочная станцыя не прадстаўляе насельніцтву ніякай пагрозы да таго моманту, пакуль яе не загрузяць ядзерным палівам. Апошняя сур'ёзная аварыя на АЭС у такой тэхналагічна развітай краіне як Японія прадэманстравала, што з ядзернай энергетыкай жарты дрэнныя і падстаў для самазаспакаення вакол грандыёзнага аб'екта паблізу Астраўца ніколі не павінна быць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 18.08.16 | | | | Пятніца 19.08.16 | | | | Субота 20.08.16 | | | | Нядзеля 21.08.16 | | | | Пан. 22.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +14 | +19 | +14 | +11 | +16 | +21 | +16 | +12 | +18 | +24 | +17 | +14 | +18 | +24 | +18 | +15 | +19 | +23 |
| Ціск | 744 | 744 | 745 | 746 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 750 | 750 | 751 | 750 | 751 | 750 | 749 | 747 | 746 | 746 |
| Вецер м/сек | 5 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 2 Пд | 3 Пд | 3 Пд-У | 3 Пд | 0 ШТЛ | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 3 Пд | 2 Пд | 4 Пд-У | 3 Пд | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 2 Пд-З |
| Вільготнасць | 90 | 94 | 66 | 82 | 92 | 82 | 52 | 92 | 95 | 80 | 47 | 83 | 83 | 77 | 51 | 74 | 87 | 88 | 70 |

## Дзень за днём

**Знешні дзяржаўны доўг Беларусі перавысіў 13 млрд. $ пры штогадовым ВУП 18 млрд. долараў. Беларусь атрымала 2-гі транш крэдыту ЕФСР у суме 300 млн. $. Летам паскорыўся рост праблемных актываў беларускіх банкаў, там пачаліся звальненні супрацоўнікаў. Па росту цэн (7,4 %) сёлета Беларусь зноў стала "лідарам" на тэрыторыі былога СССР. За апошнюю пяцігодку ў айчыннай прамысловасці скарацілі 150 тысяч работнікаў. Дэнамінацыя не паўплывала на інфляцыю. Беларусы сталі атрымоўваць значна меней пасылак з-за граніцы. У Беларусі прынялі новыя правілы ўтрымання могілак.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Як і чакалася, упершыню ў гісторыі жанчына Хілары Клінтан стала афіцыйна кандыдам ад Дэмакратычнай партыі на прэзідэнцкіх выбарах, яе сапернік Д. Трамп.

**Сірыя.** У правінцыі Ідліб збілі верталёт Мі-8 з пяццю расійскімі ваеннымі на борце, баевікі "Ісламскай дзяржавы" пригразілі пачаць свяшчэнную вайну "джыхад" у Расіі.

**Украіна.** З падачы СБУ ўлады краіны прыпынілі знешнеэканамічную дзейнасць і ўвялі санкцыі супраць яшчэ 243 расійскіх кампаній за фінансавую падтрымку сепаратыстаў.

**Турцыя.** Глава МЗС М. Чавушолгу пригразіў разарваць міграцыйнае пагадненне з ЕС, калі Брусель да кастрычніка не ўвядзе бязвізавы рэжым для паездак турэцкіх грамадзян.

**Расія.** У. Пуцін правёў перад выбарамі вялізныя кадравыя "чысткі": зняў з пасад некалькі губернатараў і чыноўнікаў высокага рангу, ліквідаваў Крымскую федэральную акругу.

**Польшча.** Два польскія ваенныя самалёты-знішчальнікі F-16 выявілі і прымусілі да пасадкі на аэрадроме горада Радам падазроны расійскі лёгкаматорны самалёт.

**Японія.** Ваенныя ВМС ЗША вырашылі пасля акцый пратэсту вярнуць японскім уладам 4 тысячы гектараў зямлі сваёй асноўнай ваеннай базы на востраве Акінава.

**Арменія.** Каб пазбегнуць кровапраліцця, 20 захопнікаў паліцэйскага будынка ў Ерэване здаліся ўладам, 17 з іх затрымалі, траіх параненых давялося шпіталізаваць.

**ЗША.** Пасля жорсткага забойства ісламістамі святара ў Францыі адзін з вядучых журналістаў уплывовай газеты Wall Street Journal Сахраб Акмары перайшоў у каталіцтва.

**Швейцарыя.** Вучоныя Сусветнай арганізацыі аховы здароўя пацвердзілі, што выпадкі перадачы віруса Зіка камарамі былі зафіксаваны ўжо ў 76 краінах свету.

**Расія.** Намеснік міністра фінансаў РФ Т. Несцярэнка папярэдзіла, што без рэформ эканомікі ў дзяржавы да канца 2017 года не застанецца грошай на выплату зарплат.

**Бразілія.** Перад пачаткам Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра МАК высветліў, што будаўнікі спецыяльна пашкодзілі каналізацыю і электраправодку ў Алімпійскай вёсцы.

**Індыя.** У штаце Утар-Прадэш вясковую сям'ю, мужа і жонку з касты "недатыкальных" забілі сякерай толькі за тое, што яны своечасова не заплацілі за набытыя імі 3 пачкі пячэння.

**Казахстан.** За парушэнне правілаў дарожнага руху падчас велапрабежкі главу ўрада К. Масімава пакаралі штрафам у суме 30 долараў, бо ездзіць на той трасе на роварах нельга.

**Венесуэла**. З-за недахопу ежы за паўгода ў заапарку Карыкуао сталіцы краіны Каракасе памерлі ад голаду каля 50 жывёлін, паўсюдна не хапае тавараў і прадуктаў і для людзей..

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Карпарацыя "Растам" заявіла пра гатоўнасць замяніць пашкоджаны пасля інцыдэнту на будаўнічай пляцоўцы корпус рэактара для ўзводзімай Беларускай АЭС.

**Мінск.** Стагніруючы МАЗ са стратамі 62 млн. $, як прапанаваў эканаміст А. Кныровіч, неабходна хутчэй прадаць, бо інакш яго чакае горкі лёс "Мотавела" і "Гарызонта".

**Лагойск.** У фермерскай гаспадарцы "Цнянскія экапрадукты" А. Лукашэнка паабяцаў аказваць падтрымку развіццю фермерскага руху, аддаваць зямлю нармальным людзям.

**Мінск.** Экс-глава Нацыянальнага банка С. Багданкевіч заявіў, што Беларусі патрэбны кардынальныя рэформы, бо рост праблемных актываў банкаў стаў пагражаць укладам насельніцтва.

**Смалявічы.** Генеральны дырэктар авіякампаніі "Белавія" А. Гусараў прызнаў, што прыйдзецца, магчыма, спісваць не толькі грузавы самалёт, але і "Боінг", якія сутыкнуліся ў буру.

**Гомель.** Вучоны фізік, кандыдат навук, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Юрый Варонежцаў заклікаў спыніць будаўніцтва БелАЭС, бо яе энергія будзе незапатрабаваная.

**Мінск.** Старшыня ЦВК Л. Ярмошына патлумачыла па-хамску, што большасць (83 %) незалежных вылучэнцаў не ўключылі ў выбаркамы таму, што яны не маюць аўтарытэту.

**Буда-Кашалёва.** Падчас спрэчкі на падпітку ноччу 34-гадовы мужчына абліў бензінам і падпаліў сваю сужыцельку, спалохаўся і пачаў тушыць, выклікаў хуткую, яго затрымалі.

**Брэст.** Мясцовай 38-й асобнай гвардзейскай брыгадзе вярнулі савецкую назву 38-й дэсантнаштурмавой, пасля рэканструкцыі коштам 14 млрд. руб. адкрыўся спорткомплекс.

**Гродна.** Вечарам хлопчык узяў без дазволу ключы ад "Опеля" бацькі, каб пагуляць у салоне, і ў двары свайго дома пашкодзіў 4 суседнія прыпаркаваныя аўтамабілі.

**Мінск.** Са згоды А. Лукашэнкі Генпракуратура Беларусі спыніла крымінальную справу экс-генменеджара ХК "Дынама" (Мінск) У. Беражкова, зняты арышт з ягонай маёмасці.

**Шчучын.** Амаль 200 кілаграмаў баравікоў і падасінавікаў сабрала за адзін дзень сям'я Лышчыкаў з пасёлка Вострына, большую частку іх знайшлі на лясной палянцы бліжэйшага лесу.

**Мядзель.** Парыў моцнага ветру перакуліў на возеры Нарач парусную яхту з 9 пасажырамі на борце, выратавальнікі АСВОД дапамаглі ўсім, сярод пацярпелых было 6 кітайцаў.

**Быхаў.** Пасля сольнага канцэрта на VII Міжнародным свяце "Вялікая бард-рыбалка" легенды аўтарскай песні Тацццяна і Сяргей Нікіціны тыдзень адпачывалі на аграсядзібе.

**Ашмяны.** Па падазрэнні ва ўдзеле ў дагаворным матчы міліцыя арыштавала адразу 5 футбалістаў мясцовага клуба 1-й лігі, ім нібыта перадалі мінімум 2 тысячы долараў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Мінімальная заработная плата за ліпень індэксуецца на 5,4%



■БЕЛТА

**Памер месячнай мінімальнай заработнай платы (МЗП) за ліпень бягучага года індэксуецца, як і ў папярэднім месяцы, на 5,4%.**

Гэта абумоўлена тым, што індэкс спажывецкіх цэн за ліпень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца яе папярэдняй індэксацыі (чэрвень 2016 года), паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны. З 1 студзеня бягучага года месячная мінімальная заработная плата ўстаноўлена ўрадам у памеры Br2 млн 300 тыс. З улікам індэксацыі ў 5,4% памер МЗП у ліпені гэтага года складае Br239,18 (з улікам дэнамінацыі). МЗП - дзяржаўны мінімальны сацыяльны стандарт у галіне аплаты працы, які наймальнік абавязаны прымяняць у якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы работнікаў за працу ў нармальных умовах на працягу нармальнай працягласці працоўнага часу пры выкананні абавязкаў работніка, лакальных нарматыўных прававых актаў і працоўнага дагавора. Грашовыя даходы (заработная плата, дзяржаўныя стыпендыі навучэнцам, стыпендыі клінічным ардынатарам, стыпендыі работнікам, накіраваным на павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку, стажыроўку ў вочнай (дзённай) форме навучання ў іншы населены пункт), якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц, і заработная плата дзяржаўных служачых і прыраўнаваных да іх асоб, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага складу, грашовае забеспячэнне ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы, суворавцаў, выхаванцаў воінскіх часцей, курсантаў ваенных навучальных устаноў за ліпень бягучага года не індэксуюцца, так як індэкс спажывецкіх коштаў не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі (красавік 2016 года). Устаноўленыя ад базавай велічыні дапамогі па беспрацоўі і стыпендыі грамадзянам у перыяд прафесійнай падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне гарадскога, раённага выканаўчага камітэта індэксуюцца на 5,4%, паколькі індэкс спажывецкіх цэн за ліпень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца іх папярэдняй індэксацыі (чэрвень 2016 года). Насельніцтву, якое атрымлівае даходы на тэрыторыі рэспублікі з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Для даведкі: грашовыя даходы насельніцтва за ліпень 2016 года, якія падлягаюць індэксацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам, індэксуюцца ў межах Br175,50 (100% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае на момант індэксацыі). Гэта прадугледжана ўказам ад 28 студзеня 2006 года №55 «Аб нарматыве індэксацыі грашовых даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі»

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На абласным семінары-вучобе пацвердзілі, што з 372 гаротных гаспадарак вобласці шэраг чакае працэдура банкрутства, астатніх – дасудовае аздараўленне.

**Гарадок.** ЗП "Дзетскасельскі-Гарадок" пачала пастаўкі штодзень 35 тон малака класу "экстра" на адзін з філіялаў фірмы "Danone" ў Падмаскоўі, тут здадуць і суперкомплекс.

**Паставы.** Мясцовы малочны завод пачаў выпуск новых элітных сыроў "Vilno", іх смак спажыўцы ацанілі на дэгустацыі ў фірменным магазіне "Малако" ў раённым цэнтры.

**Глыбокае.** На старым навадруцкім тракце пачалася рэканструкцыя аўтадарогі Р-110, участак 2,1 км на выездзе з райцэнтра да вёскі Зарубіна будзе заасфальтаваны.

**Бягомль**. Работнікі мясцовага лясгаса і 5 адзінак тэхнікі выехалі на дапамогу калегам у Чэрвеньскім раёне для ліквідацыі наступстваў урагану ў яго лясных масівах.

**Полацк.** Маёр міліцыі У. Суvoраў вынес у цемры на руках з лясного балота пажылую пенсіянерку, якая заблудзілася падчас паходу ў лес за грыбамі і зусім выбілася з сіл.

**Сянно.** Да абласных "Дажынак" у друкарні ВДУ імя П. Машэрава надрукавалі накладам 159 экземпляраў кнігу-падарунак краязнаўцы А. Бараноўскага аб знакамітых земляках.

**Верхнядзвінск.** Ва ўрочышчы Генеўская Гара на месцы гібелі восенню 2004 г. капітана У. Нарубіна пагранічнікі паставілі за сабраныя імі грошы помнік свайму баявому таварышу.

**Віцебск.** У кватэрах гараджан апошнімі ў вобласці адключылі правадное радыё, Віцебшчына поўнасцю перайшла на эфірнае радыёвяшчанне па прыёмніках УКВ і ФМ.

**Орша.** Вечарам у выхадныя ў сваёй кватэры 22-гадовы гараджанін падчас узнікшай п'янай спрэчкі забіў цвікадзёрам свайго 26-гадовага беспрацоўнага госця, забойцу затрымалі.

**Полацк.** Падчас рэстаўрацыі храма Спаса-Еўфрасіньеўскага жаночага кляштара вучоныя выявілі новыя ўнікальныя фрэскі з выявай Іаана Златавуста і сцэнкай з Біблії.

**Мёры.** У раённым гісторыка-этнаграфічным музеі адкрылі новую выставу цікавых твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва людзей з абмежаванымі здольнасцямі.

**Ушачы.** У цэнтральнай раённай бальніцы ўвялі прапускны рэжым для наведвання хворых, да іх прапусцяць толькі з 11 да 13 гадзін і з 17 да 19 гадзін і толькі пры прад'яўленні пашпарту.

**Докшыцы.** У мерапрыемствах Сусветных дзён моладзі ў Кракаве ўдзельнічалі 43 мясцовыя юнакі і дзяўчаты, з Віцебскай дыяцэзіі там пабывалі звыш 300 юных католікаў.

**Браслаў.** На беразе аднаго з буйнейшых азёр краіны Дрывяты прайшло буйное музычна-спартыўнае свята "Viva Braslav" з начной дыскатэкай, грандыёзным лунапаркам.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

# На бульбяны фэст у Германавічы прыехалі нават з Масквы!

**У мінулую суботу ў Германавічах, на сядзібе літаратурна-мастацкага музея імя Міхася Райчонка, адбыўся Бульбяны фэст.**

Зладзіла яго мясцовая грамадская актывістка Ада Эльеўна Райчонак пры падтрымцы глыбоцкай суполкі Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ), старшыня Таццяна Смоткіна.

Ада Эльеўна, нягледзячы на свой вельмі паважаны ўзрост, – ёй амаль 80 – з'яўляецца генератарам шматлікіх мясцовых ініцыятыў. Толькі па яе задуме і непасрэдным ўдзеле ў Германавічах былі створаны два музеі – этнаграфічны імя Язэпа Драздовіча, які месціцца ў палацы графа Шырына, а таксама літаратурна-мастацкі імя Міхася Райчонка. Міхась Райчонак, мастак, краязнаўца, пісьменнік, сын Ады Эльеўны, які заўчасна пакінуў нас у 1999 годзе.

— *Я працягваю справу Міхася, нябожчыка,*– кажа спадарыня Ада. – *Я яму слова дала, што працягну яго справу, пакуль маю сілы.*

Ада Райчонак мае вялікі аўтарытэт не толькі сярод журналістаў, краязнаўцаў, гісторыкаў, мастакоў, пісьменнікаў і ўсіх неабыякавых людзей нашага краю, але і ва ўсёй Беларусі. Прыехаць да Ады Эльеўны ў Германавічы - усе лічаць за вялікі гонар!

Сама спадарыня Ада, былая настаўніца, цяпер кіраўніца культурна-адукацыйнага цэнтра імя Язэпа Драздовіча. У 2010 годзе стала лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава, заснаванай Рухам «За Свабоду».

На Бульбяны фэст, як і належыць, прыехала найбольш з самога Шаркоўшчынскага раёна, а таксама з Мёраў, Верхнядзвінска, Полацка, Віцебска, Мінска, нават з Масквы. Натуральна, завітала і нашая глыбоцкая суполка БАЖа. Прыбыў на фэст і наш дудар Віталь Воранаў з Удзела, які па дарозе прыхапіў і нашую даўнюю аўтарку Людмілу Ардынскую з Радзюкоў.

Натуральна, стравы з бульбы ўдзельнікі фэсту прывозілі ўжо загадзя дома прыгатаванымі. Інакш бы не хапіла часу ні на сам фэст, ні сродкаў (газавых пліт) для прыгатавання бульбяных страваў.

Колькі страў можна прыгатаваць з бульбы? Некаторыя спрабавалі лічыць, называліся лічбы: 120, 150... Бульба вараная, бульба смажаная, бульба, запечаная з грыбамі, бульба з салам, бульба фры, клёцкі, дранікі, чыпсы... Не забываем, што і для прыгатавання такога напою, як кісель, патрэбны бульбяны крухмал. Зрэшты, і больш моцныя напоі робяць з бульбы, напрыклад, спірт.



**Прывёз на фэст усіх глыбоцкіх Даніла Ермаковіч са Старых Шарабаёў. Сам прыняў актыўны ўдзел у канцэртнай праграме ды прачытаў верш “Бульба”.**

Вельмі эмацыйна адбывалася прэзентацыя бульбяных страваў. Тут вялікую актыўнасць праявіла дэлегацыя з вёскі Каўшэлева (Шаркоўшчынскі раён), якая прывезла не толькі свае адмысловыя стравы з бульбы, і нешта яшчэ і да бульбы па тамтэйшаму рэцэпту, а таксама і народны фальклорны калектыў “Купалінка”.

Свае вершы прачыталі паэты літаратурна-музычнага аб'яднання “Світанак”. Для прысутных выступіў лідар рок-гурта “Sumarok” з Полацка Ігар Палынскі, які пад акампанемент гітары выканаў песні ўласнага сачынення. Вельмі насмяшыла сваімі прыпеўкамі Ірына Лаўрыновіч з Шаркоўшчыны.

Можна сказаць так: людзі захацелі сустрэцца, зрабіць для сябе свята – і яны свята зладзілі. Гэта не толькі гатаванне страваў, падрыхтоўка канцэртных нумароў, але і ў выніку – папулярызацыя роднай мовы, культуры, гісторыі, новыя знаёмствы і кантакты.

Паводле галоўнага арганізатара свята, грамадскай актывісткі з Германавічаў Ады Эльеўны Райчонак, сёлетні фэст атрымаўся больш цікавым за папярэдні.

Дарэчы, нарэшце, удзельнікі цяперашняга фэсту вызначыліся з канчатковай назвай гэтага свята! “Дранік фэст” ці “Бульбяны фэст”? Большасць прагаласавала за апошні варыянт назвы.



**Які бульбяны фэст без дранікаў?**



**Усе стравы, якія стаяць на стале, прыгатаваныя з бульбы. Натуральна, былі і агуркі, і грыбы, ды ўсё іншае, што смачна есцца з бульбай!**



**Тры музыкі ўрэшце рэшт знайшлі “агульную ноту”.**

# Беларускія навукоўцы: Балота Ельня можа штогод прыносіць $ 30 млн прыбытку

**У Нацыянальнай акадэміі навук сцвярджаюць, што патэнцыял беларускіх верхавых балотаў ацэньваецца ў сотні мільёнаў даляраў.**

Лічбы і высновы падаюцца ў даследаванні верхавога балота Ельня (Віцебская вобласць), якое правёў Інстытут эксперыментальнай батанікі імя Купрэвіча Нацыянальнай акадэміі навук.

Прыродныя багацці адроджанай Ельні ацэньваюцца ў $ 300 млн. Пры аднаўленні гідралагічнага рэжыму і экалагічнай раўнавагі водна-балотны комплекс «Ельня» можа прыносіць больш за $ 30 млн штогадовага прыбытку, мяркуюць навукоўцы.



Самы каштоўны рэсурс верхавых балотаў – прэсная вада. Паводле навукоўцаў, без уліку азёраў, у балоце Ельня захоўваецца больш за 450 млн куб.м. вады. Зыходзячы з рынкавых коштаў, яе аднаразовы кошт складае каля $ 247 млн.

Акрамя таго тарфянік – гэта прыродная сарбцыйная ўстаноўка. Кожны забалочаны гектар здольны прапускаць праз сябе ў суткі 680 тонаў вільгаці, выдаляючы з яе шкодныя прымешкі. Абслугоўванне прамысловай устаноўкі магутнасцю, супастаўнай з Ельняй, складзе мінімум $ 9 млн у год.

Ельня – адно з самых буйных верхавых балотаў у кантынентальнай Еўропе. Апошнім часам яго гідралагічны рэжым аднаўляўся ў межах праекту Праграмы развіцця ААН ды Глабальнага эканамічнага фонду, які рэалізуецца пры фінансавай падтрымцы «The Coca-Cola Foundation».

**Крыніца:** НМ, belsat.eu, паводле БелТА

# Восемдзесят гадоў таму ў Шаркоўшчыне паставілі помнік польскім жаўнерам

**Праўда, помнік прастаяў крыху больш за тры гады і быў разбураны бальшавікамі.**

**■ Зміцер Лупач**

Уражвае якасць, з якой зроблены быў гэты помнік. Больш за семдзесят гадоў стэла праваліялася на зямлі і не разбурылася. Ляжыць яна на тэрыторыі пляжа ў Шаркоўшчыне, побач з ёй адпачываюць людзі.

Пару гадоў таму я спытаў у мясцовых жыхароў, што гэта за помнік. Мне адказалі, што тут некалі стаяў помнік Пілсудскаму.

І вось зусім нядаўна дзякуючы краязнаўцу Кастусю Шыталю ўдалося разгадаць гэту загадку. Газета «Kurjer Wileński», Nr. 221 ад 13 жніўня 1936 года паведамляла, што ў Шаркоўшчыне быў пастаўлены помнік героям, што загінулі падчас польска-савецкай вайны 1920 года.

Да гэтага парэштکі пяці невядомых жаўнераў спачывалі ў прыдарожных равах. І вось перад чарговай гадавінай Варшаўскай бітвы тагачасныя польскія ўлады вырашылі ўрачыста перазахаваць герояў. На версе стэлы быў усталяваны сімвал польскай дзяржавы – Белы арол. Вядома, новая ўлада гэтага не магла дазволіць і ён быў скінуты. Разбураны быў і сам помнік. Улада, якая была абыякавая да пахаванняў сваіх салдатаў, тым больш не магла па-іншаму ставіцца да пахаванняў чужых герояў.

Такіж сумны лёс напаткаў воінскія пахаванні ў Паставах, Беразвеччы, Дунілавічах, іншых гарадах і вёсках.

**Pomnik poległych bohaterów w Szarkowszczyźnie**

W Szarkowszczyźnie, pow. dziśnieńskiego, została zakończona budowa pomnika Ku Czci Poległych Bohaterów. Pomnik został wzniesiony staraniem miejscowego Koła Związku Rezerwistów. W podziemiach pomnika złożono prochy 5 nieznanych żołnierzy polskich, poległych w wojnie polsko-bolszewickiej, ekshumowanych z mogił przydrożnych. Na szczycie pomnika został umieszczony głaz granitowy z symbolem narodowym.

Дарэчы, 15 жніўня споўнілася 96 гадоў з Дня перамогі ў Варшаўскай бітве. Нагадаем, што летам 1920 года Чырвоная Армія пад камандваннем Міхаіла Тухачэўскага перайшла ў контранаступленне. Да жніўня чырвонаармейцы дайшлі да Віслы. Лёс Варшавы і наогул маладой польскай дзяржавы аказаўся пад пагрозай. Але польскі народ здолеў мабілізавацца і адстаяць сваю краіну.

Варшаўская бітва пачалася 13 жніўня 1920 года, а 15 жніўня ў бітве наступіў перапом на карысць польскіх войскаў. Гэты дзень у Польшчы святкуецца як Дзень войска польскага.



Перамога ў гэтай бітве мела вялікае значэнне і для нашых земляў, бо ў выніку контранаступлення польскіх войскаў яны былі вызваленыя ад бальшавікоў. Таму камуністычная ідэалогія запанавала на нашых землях на два дзесяцігоддзі пазней, чым ва ўсходняй Беларусі.

Можна па-рознаму ставіцца да гісторыі таго часу, але розніца паміж усходняй і заходняй Беларуссю адчувалася яшчэ на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пасля іх аб'яднання.

Нас вучылі ў школе, што палякі ўсяляк праследавалі ўсё беларускае, а там, на ўсходзе, беларусы будавалі шчаслівую будучыню. Але калі нават зараз паглядзець на стан беларускай мовы, то якраз лепш яна захавалася ў заходняй частцы краіны.

Вяртаючыся да вышэйнапісанага, хацелася б, каб помнік польскім жаўнерам быў адноўлены. Гэта трэба яшчэ і таму, што, хутчэй за ўсё, пахаваныя там нашы землякі, а не жаўнеры з цэнтральнай Польшчы.

Спонсары для гэтай справы, думаю, знойдуцца, ад мясцовых уладаў патрабуецца толькі дазвол на ўстаноўку.

# Янку Запрудніку споўнілася 90 гадоў



Янка Запруднік падпісвае свае кнігі падчас мінулагодняй сустрэчы ў Мінску. *Фота eurobelarus.info*

**Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, палітолаг Янка Запруднік нарадзіўся 9 жніўня ў мястэчку Мір. Яго сапраўднае імя Сяргей Вільчыцкі.**



**Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

Сяргей Вільчыцкі нарадзіўся ў мястэчку Мір на Карэлічыне, калі гэтая частка Беларусі была пад уладай Польшчы. Бацькі, настаўнікі па адукацыі, гаспадарылі на зямлі. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР сям'я Вільчыцкіх падлягала высылцы ў Сібір, але гэтаму перашкодзіў напад нацысцкай Германіі на СССР.

У гады нямецкай акупацыі Сяргей Вільчыцкі закончыў у Міры пачатковую школу (1942), затым у Баранавічах — прагімназію і тры курсы (з чатырох) гандлёвай школы (1943-44). Належаў да Саюза беларускай моладзі. Набліжэнне савецкай арміі да Баранавіч вымусіла Сяргея Вільчыцкага да адыходу ў Германію: ён запісаўся ў дапаможную службу нямецкай авіяцыі (Luftwaffehelfer). За месяц да капітуляцыі Германіі быў пераведзены ў дывізію "Беларусь" (пад камандаваннем Францішка Кушаля), якая напрыканцы красавіка 1945 года перайшла ў Баварыі да амерыканцаў. Да мая 1946 года знаходзіўся ў лагеры ваеннапалонных у амерыканскай зоне акупацыі.

Сяргей Вільчыцкі пасля палону прыехаў у беларускі лагер для перамешчаных асоб у Рэгенсбургу, які ў ліпені 1946 года быў пераведзены ў Міхельсдорф. Як былому ваеннапалоннаму атрымаць статус перамешчанай асобы яму было немагчыма, таму давялося "згубіць" дакументы, з якімі яго адпусцілі з амерыканскага палону, і ўзяць прозвішча Яна Запрудніка з Вільні, што па нейкай прычыне пакінуў лагер. З гэтага часу Сяргей Вільчыцкі стаў Янкам Запруднікам, захаваўшы гэта прозвішча на ўсё жыццё.

У лагеры дзейнічала Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, якую Янка Запруднік скончыў у 1947 годзе. У студзені 1948 года ён выправіўся ў Вялікабрытанію, дзе працаваў на шахтах цэнтральнай Англіі. Удзельнічаў у грамадска-культурнай нацыянальнай працы, выданні часопіса беларускай моладзі "Наперад!", далучыўся да дзейнасці Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Неўзабаве Янка Запруднік атрымаў стыпендыю з Ватыкана, дзякуючы гэтаму, у 1950-54 гадах набываў вышэйшую адукацыю на гістарычным факультэце Лювенскага ўніверсітэта (Бельгія). Навучанне сумяшчаў з удзелам у грамадскай, культурна-асветніцкай працы беларускай грамады. Быў адным з арганізатараў беларускага маладзёжнага руху, у 1953-54 навучальным годзе старшыня Беларускага студэнцкага згуртавання ў Лювене, стаў адным з ініцыятараў аднаўлення часопіса "Наперад!" і яго аўтарам. За гады навучання наведаў шэраг краін Заходняй Еўропы.

Пасля заканчэння ўніверсітэта з адзнакай Янка Запруднік прыняў прапанову Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму (ад 1956 – Амерыканскі камітэт вызвалення) і ў верасні 1954 года пачаў працаваць журналістам беларускай секцыі радыёстанцыі "Вызваленне" ў Мюнхене, у ліку беларускіх замежных вучоных уключыўся ў працу Інстытута вывучэння СССР. У 1957 годзе Янка Запруднік пераехаў у ЗША, дзе працягваў працу ў Нью-Ёрку да 1991 года на той жа радыёстанцыі (ад 1964 – "Свабода"). У 1969 годзе ў Нью-Ёркскім універсітэце абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара гістарычных навук. Выкладаў гісторыю Расіі і СССР у Квінскім каледжы Нью-Ёрскага гарадскога ўніверсітэта (1970–1975), гісторыю і сучасную палітыку Беларусі ў Калумбійскім універсітэце (1994).

Навуковая дзейнасць і публіцыстыка Янкі Запрудніка прысвечана гісторыі Беларусі, жыццю беларускага народа.

Яго высновы адрозніваліся ад канцэпцыі гісторыі беларускай дзяржаўнасці, якая існавала ў БССР. У працах "Савецкія канцэпцыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага" і "Дзяржаўнасць Беларусі ў дасавецкую пару" аспрэчваецца сцвярджэнне савецкіх гісторыкаў аб тым, што беларускі народ упершыню прыступіў да стварэння сваёй дзяржавы толькі пры савецкай уладзе. Янка Запруднік падкрэсліваў, што Першы Усебеларускі з'езд – важная веха дзяржаўнага будаўніцтва, разглядаў абвяшчэнне БНР як акт аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, паказваў уплыў беларускага нацыянальнага руху на ўтварэнне БССР, якая ўзнікла ў процівагу БНР. Апублікаваў у доказ гэтага дакументы і матэрыялы З'езда ("Запісы", 1963, кн. 2; 1964, кн. 3; 1964, кн. 4) і разам з Томасам Бэрдам – Устаўныя граматы БНР ("Запісы", 1975, кн. 13).

У шэрагу артыкулаў "Беларускага зборніка» і іншых публікацыях зроблена выснова аб "чужым" паходжанні бальшавізму на Беларусі, завяршэнні канфлікту 1920-х гадоў "паміж беларускімі нацыянал-камуністамі і расійскімі бальшавікамі" масавымі неабгрунтаванымі рэпрэсіямі ў 1930-я гады,ператварэнні КПБ у правінцыяльную арганізацыю КПСС. Крытыкуецца нацыянальная палітыка КПСС і КПБ, ігнараванне нацыянальных беларускіх інтарэсаў, фармальнасць суверэнітэту БССР, абсалютная залежнасць ад партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва СССР.

# Будзьце асцярожнымі пры зборы грыбоў

## Карысныя парады грыбнікам



**Грыбны сезон у поўным разгары. Знойдзецца мала людзей, каму не падабаецца так званае “ціхае паляванне”.**

**■ М. Хілько,загадчыца мікрабіялагічнай лабараторыі, урач-бактэрыёлаг Глыбоцкай РЦГЭ**

Іўсё ж пры зборы і ўжыванні грыбоў трэба быць вельмі асцярожным, каб не стаць ахвярай недарэчнага выпадку і не прынесці з лесу атруту.

На жаль, падобныя выпадкі не адзінкавыя. Штогод у краіне рэгіструюцца выпадкі атручвання грыбамі, у тым ліку са смяротным зыходам. Усе пацярпелыя, з іх словаў, ужывалі ядомыя грыбы (смаржкі, апенькі, грузды, сыраежкі, лісічкі), якія ў большасці выпадкаў мелі падабенства з умоўнаядомымі і ядавітымі грыбамі. Тым не менш клінічная карціна ў тых, хто захварэў, характэрная для атручвання грыбамі і хутчэй за ўсё бледнай паганкай, якую можна адрозніць па клубнепадобнаму патаўшчэнню ножкі і наяўнасці “каўнерыка”. Варта памятаць, што моцнадзейнічаючы яд, які змяшчаецца ў неядомых грыбах, не разбураецца пры кулінарнай апрацоўцы.

Для таго, каб пазбегнуць атручвання грыбамі, неабходна выконваць элементарныя правілы прафілактыкі:

■ ідучы ў лес, неабходна ведаць відавы склад грыбоў і збіраць заведама толькі ядомыя грыбы, якія не выклікаюць сумневаў; калі ўбачылі ў лесе прыгожы грыб, але не памятаеце яго назву, прайдзіце міма, ваша здароўе і жыццё важней гэтай прыгажосці;

■ грыбы – прадукт, які хутка псуецца, таму іх трэба перабіраць і сартаваць адразу;

■ парадкаваннем і падрыхтоўкай грыбоў павінны займацца толькі дарослыя;

■ перабіраючы грыбы неабходна выбракоўваць старыя грыбы, бо пры старэнні грыбоў у іх тканках адбываюцца складаныя хімічныя працэсы з утварэннем ядавітых рэчываў; у старых грыбах, нават такіх як баравікі, падасінавікі, падбярозавікі, у працэсе старэння ўтвараюцца высокатаксічныя злучэнні;

■ грыбы валодаюць здольнасцю паглынаць з навакольнага асяроддзя і назапашваць таксічныя рэчывы, канцэнтрацыі якіх у некалькі разоў перавышаюць утрыманне іх у глебе, вадзе, раслінах; таму не збірайце грыбы ўздоўж аўтамабільных дарог; усе грыбы неабходна адварваць, а адвар зліваць;

■ бацькам трэба памятаць, што грыбы павінны быць выключаныя з рацыёну дзяцей да 3-х гадоў;

■ не праводзіце смажання грыбоў без папярэдняга атварвання і зліву адвару;

■ нельга купляць кансерваваныя грыбы на рынках і ва неўстаноўленых для гандлю месцах;

■ пры першых сімптомах атручвання грыбамі (рэзкі боль у жываце, ваніты, панос, галаўны боль, якія пачынаюцца, як правіла, ноччу праз 3-12 гадзін пасля ўжывання грыбоў) варта неадкладна звярнуцца па медыцынскую дапамогу.

**Грыбы, гэта смачна і карысна! Але, каб пазбегнуць бяды, неабходна ўжываць у ежу толькі ядомыя грыбы, строга выконваючы правілы іх падрыхтоўкі.**



# У Пастаўскім раёне на пажары загінулі два чалавекі, у тым ліку дзіця



**Днём 14 жніўня ў в. Шурпікі Пастаўскага раёна гарэў жылы дом, на пажары загінула адразу два чалавекі.**

**■ А. Салодкі,** *інспектар .....*

Адзін з загінулых непрацуючы мужчына 1971 года нараджэння, госць домаўладальніка, і дзяўчынка 2007 года нараджэння, дачка гаспадара. Самога гаспадара дома ўдалося выратаваць дзякуючы аператыўным дзеянням жыхароў вёскі, якія да прыезду ратавальнікаў выцягнулі яго ўжо з палаючага дома.

Прычына пажару высвятляецца. Сярод версій – неасцярожнасць пры курэнні, парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

У выніку пажару ў доме знішчаны дах, столь, пашкоджаныя маёмасць і сцены, але самае страшнае, што ў агні і дыме загінулі два чалавекі, сярод якіх дзевяцігадовае дзіця.

Паважаныя бацькі, служба выратавання нагадвае, што за бяспеку вашага дзіцяці ў першую чаргу адказваеце Вы самі. І ў выпадку трагедыі пакутаваць больш за ўсё прыйдзецца Вам.

На дадзены момант па ўсёй краіне праводзіцца пажарна-прафілактычная акцыя «Канікулы без дыму і агню», у часе якой ратавальнікі наведваюць летнія лагеры і вучаць дзяцей бяспецы. Але далёка не ўсе дзеці адправіліся ў дзіцячыя лагеры і прайшлі ўрок па арганізацыі бяспекі жыццядзейнасці. У сувязі з чым ратавальнікі нагадваюць асноўныя правілы, якія неабходна выконваць, каб прадухіліць трагедыю.

1. Не пакідайце малалетніх дзяцей без нагляду. Ні ў якім разе не зачыняйце іх на замок.

2. Захоўвайце “небяспечныя цацкі” ад дзяцей у недаступных для іх месцах, прыбярыце з вачэй запалкі, запальнічкі і цыгарэты.

3. Растлумачце дзецям, што ім самім наогул нельга мець справу з агнём у любых яго праявах (запалкі, газавая пліта, печы, вогнішчы і іншае).

4. Навучыце дзяцей нумарам выкліку службы выратавання 101 і 112, а таксама няхай яны ведаюць на памяць і нумар вашага тэлефона.

5. Прайграйце з дзецьмі парадак дзеянняў у выпадку ўзнікнення пажару. Растлумачце ім, што самае небяспечнае пры пажары гэта не полымя, а паніка і дым, што ні ў якім разе нельга хавацца ад агню, а трэба як мага хутчэй пакінуць небяспечную зону.

6. Выконвайце іншыя правілы пажарнай бяспекі, каб прадухіліць пажар у вашым доме і не стварыць дзецям небяспеку не па іх віне, не курыце ў жылых памяшканнях.



**МНС інфармуе**
**на 16.08.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 423;
Гібель людзей – 46, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 13;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 22 жніўня




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.20** Клуб редакторов.
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Мелодрама «Иллюзия счастья « (Россия).
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Мелодрама «Иллюзия счастья « (Россия).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Комедийный сериал «Сваты-5» (Украина).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Комедийный сериал «Сваты-5» (Украина).
**17.35** «Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** «Форум»
**21.00** Панорама.
**21.45** Детективный сериал «След» (Россия).
**23.25** Зона Х.
**23.40** Новости.
**00.00** День спорта.
**00.10** Остросюжетная мелодрама «Девичья охота» (Россия-Украина).



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Модный приговор».
**12.20** «Таблетка».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.00** «Сегодня вечером»
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Непутевые заметки»
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет».»Китай. Засекреченная война».
**18.55** «Аффтар жжот».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Беларусь без границ с группой «Без Билета».
**23.00** Концерт группы «Би-2».
**00.30** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Комедийный сериал «Моя прекрасная няня» (Россия).
**10.10**, **12.00**, **14.00**, **16.00**, **18.00**, **18.45** «Новый сезон на «Двойке». Телемарафон.
**10.30** Телебарометр.
**11.05** «Человек-невидимка». Реалити-шоу (Россия).
**12.25** Семейная комедия «Отель для собак» (США).
**14.35** «Орел и Решка. На краю света».
**15.40** Психологический детектив «Обмани меня 2» (США).
**17.00** Комедийный сериал «Моя прекрасная няня» (Россия).
**18.40** Телебарометр.
**19.15** Суперлото.
**20.05** «Человек-невидимка». Реалити-шоу (Россия).
**21.10** «Экстрасенсы-детективы». .
**22.10** КЕНО.
**22.15** Репортер.
**23.10** Психологический детектив «Обмани меня 2» (США).
**00.05** Молодежный сериал «Как я встретил вашу маму» (США).




**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Бяляначка і Розачка». Казка (Германія, 2012 г.).
**09.15** Дакументальны фільм «Італьянскі імігрант і савецкі рэзідэнт».
**09.55** «Кахаць па-руску-3». Меладрама (Расія, 1999 г.).
**11.30** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**12.25** «Наперад у мінулае».
**12.50** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.35** «Час кіно».
**13.45** «Пакаянне». Драма (СССР, 1984 г.).
**16.15** «Партызаны супраць Вермахта». Дакументальны серыял.
**17.05** «Лісты да жывых». Ваенная драма («Беларусьфільм», 1964 г.).
**18.45** «Калейдаскоп».
**19.00** «Выбары-2016».
**20.00** Дакументальны фільм «Італьянскі імігрант і савецкі рэзідэнт».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.50** «Час кіно».
**22.00** «Даруй нам, першае каханне». Меладрама («Беларусьфільм», 1984 г.).
**23.05** «Паром». Кароткаметражны фільм.
**23.45** «Геапалітыка: свет за тыдзень».




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Не ври мне!».
**12.35** «Званый ужин».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Наше дело».
**14.05** Концерт Михаила Задорнова.
**15.45** «Водить по-русски».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Следаки». Сериал.
**18.05** «Званый ужин».
**19.00** Выступления кандидатов в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна»
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Тайны Чапман».
**23.55** «Джокер». Сериал.




**07.00** «Утро России».
**10.55** Погода на неделю.
**11.00** Вести.
**11.35** Ток шоу «Что происходит».
**12.35** «Комната смеха».
**13.50** Новости – Беларусь.
**14.00** Вести.
**14.30** «О самом главном». Ток-шоу.
**15.30** «Прямой эфир».
**16.50** Новости – Беларусь.
**17.00** Вести.
**17.30** Сериал «Там, где ты».
**19.10** Сериал «Тайны следствия».
**19.50** Новости – Беларусь.
**20.00** Вести.
**20.40** Сериал «Тайны следствия».
**21.40** Сериал «Весной расцветает любовь».
**23.00** Новости – Беларусь.
**23.10** Сериал «Весной расцветает любовь».
**01.00** Выборы 2016. Дебаты.




**05.55** «Астропрогноз».
**06.00** «Новое утро».
**08.10** Сериал «Возвращение Мухтара».
**10.00** Сегодня.
**10.25** Детективный сериал «Москва. Центральный округ».
**12.00** Суд присяжных.
**13.00** Сегодня.
**13.20** Обзор. Чрезвычайное происшествие.
**13.45** Едим дома.
**14.15** Детектив «Кодекс чести».
**15.05** Сериал «Улицы разбитых фонарей».
**16.00** Сегодня.
**16.20** Сериал «Улицы разбитых фонарей».
**19.00** Сегодня.
**19.40** Сериал «Москва. Центральный округ. Последний сезон».
**22.10** Обзор. Чрезвычайное происшествие.
**22.30** «Итоги дня».
**23.00** Сериал «Шаман».




**06.00** Утренний «Доброе утро, мир!».
**09.05** Телесериал «Банды»
**12.30** Кулинарное шоу «Бремя обеда».
**13.00** Новости
**13.15** «Трэш-тест».
**13.50** Худ.фильм «Сабрина».
**16.00** Новости
**16.20** Док.сериал «Земля. Территория загадок».
**16.50** «Секретные материалы».
**17.20** Телесериал «Невидимки»
**19.00** Новости
**19.20** Телесериал «Отражение»
**22.00** Худ.фильм «Мальтийский крест».
**23.45** Ток-шоу «Слово за слово».
**00.40** Телесериал «Демон полдня».
**03.50** Док.сериал «Другой мир».
**04.20** Телесериал «Невидимки»




**07.00** Гвардыя, серыял
**07.40** Аўтаспынам па Беларусі
**08.00** Побач з намі
**08.15** Беларусы ў Польшчы
**08.30** Загадкі беларускай гісторыі. «Няправільная» царква ў Мураванцы
**08.50** Ранча, серыял
**09.35** Форум
**10.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**10.45** Дзе растуць суніцы?, д/ф
**11.35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**11.50** Гвардыя, серыял
**12.30** Аўтаспынам па Беларусі
**12.50** Загадкі беларускай гісторыі.
**13.05** Людскія справы. Кара без прысуду
**13.40** Дзяўчаты з Аўшвіцу, д/ф
**14.30** Незабыўны красавік, м/ф
**16.00** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял
**16.45** Стамбул ад золку да змяркання, д/ф
**17.20** Невядомая Беларусь. Еўрапейскі баль, д/ф
**17.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**18.20** Невядомая Беларусь. Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп, д/ф
**18.55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.05** Побач з намі
**19.25** Размовы эксперта
**19.40** Сведкі. Антысавецкі самвыдат
**20.00** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб’ектыў
**21.25** 54 %
**21.50** Каханне і секс у Кітаі, д/ф
**22.50** Для Элен, м/ф
**00.20** Студыя «Белсат»
**01.45** Перапынак у трансляцыі

ПАНЯДЗЕЛАК, 22 жніўня

